*Разблытайма таямніцы!*

# Скарб думак

*Незалежнае рознабаковае выданне*

№ 3.
ПАНЯДЗЕЛАК
10
ЛІСТАПАДА
2003 ГОДА

***

Дзень за днём, за годам год.
Зіма, вясна, лета, восень, зіма...
Вясна, лета, восень, зіма...
Вясна, лета…

Душы нашыя ў растанні…
Ці палюбім мы іх?
Ці дапаможам самі сабе
Урэшце рэшт?

2.08.03 Міхась ЛЕБЕДЗЬ

## Сёння ў нумары:

Андрэй Расінскі
КІНО ПАСЛЯ АКУПАЦЫІ
Старонка 2.

Захар ШЫБЕКА
**ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ ПАЛІТЫЧНАЙ НАЦЫІ.**
**РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ПАРЛАМЕНЦКАЯ. 1991-1994.**
*Старонкі 3-4.*

## Удакладненні.

Адзін з чытачоў выдання "Скарб Думак", беларускі археолаг, спадар Эдвард Зайкоўскі паведаміў па тэлефоне пра заўважаныя ім памылкі ў артыкуле гісторыка Ігара Кузняцова "**Носьбіты ідэі беларускай дзяржаўнасці – ахвяры таталітарнага рэжыма**", змешчанага ў першым нумары бібліятэчкі на старонках 6-7 (агульныя 8-9 старонкі выдання).

У размове ён распавёў пра недакладнасці далейшага лёса некаторых беларусаў, арыштаваных у 1930 і 1931 г. за нацыяналізм. У прыватнасці, Макcім Гарэцкі, праф., арыштаваны ў 1930 г., высланы ў Сібір, загінуў **не там, а ў Калузе**; Гаўрыла Гарэцкі, акадэмік, арыштаваны ў 1931 г., другі раз ў 1936 г., **не загінуў, а памёр у 1988 г.**; Мітрафан Доўнар-Запольскі, праф., арыштаваны ў 1930 г., **не загінуў у Сібіры, а памёр у Маскве.** "Не патрэбна прыпісваць, не маючы для гэтага падставаў, бальшавіцкаму рэжыму новыя ахвяры, ім сваіх хопіць," – слушна заўважыў спадар Эдвард.

***Шчыры дзякуй*** шаноўнаму чытачу за ўдакладненні!

***Прашу прабачэння*** за змешчаныя ў выданні недакладнасці!

Аўтарам чарговых публікацый, нагадваю: ***больш дэталёва праглядайце свае тэксты і не давайце неправераных звестак!***

Міхась ЛЕБЕДЗЬ



Асабісты погляд.

## Гульня…

У мінулую сераду пачынаючыя журналісты гулялі ў «Крыніцы інфармацыі». Пачатковыя ўмовы дзеі былі простыя: патрэбна ўявіць сябе асобай, якая вярнулася толькі што з Францыі ў Беларусь, дзе не была тры месяцы, і купіла сабе тры выданні: «Минский Курьер», «Народную Волю» і «Советскую Белоруссию» за 5 лістапада і мела магчымасць паглядзець сайт радыё «Свабода». Падчас гульні патрабавалася азнаёміцца з інфармацыяй на працягу 22-х хвілін і адказаць на наступныя пытанні: «Якая з названых крыніцаў найлепш інфармуе пра Беларусь?», «У якім накірунку развіваецца сітуацыя ў краіне паводле ўсіх з названых выданняў, сыходзячы з інфармацыі, пададзенай у кожнай з крыніц?», «Да чаго з прадстаўленага існаваў найбольшы давер?»

Найбольшыя спрэчкі выклікаў давер да СМІ. Ці можа ён быць большым і меншым, найбольшым і найменшым? Ці толькі ён ёсць да нечага пэўнага, а да іншага яго няма. Паводле дзвюх спадарыњ адносіны да даверу – асабістая справа кожнага. З гэтым за недахопам часу пагадзіліся (гэта ў прынцыпе сведчыць пра некарэктнасць трэцяга, апошняга з пастаўленых пытанняў). А выніκі галасавання па ім такія: найбольшы давер да радыё «Свабода» – 10 асобаў, да «Народнай Волі» - 3, да газетаў «Минский Курьер» і «Советская Белоруссия» - па 0 (5 чалавек устрымаліся альбо не давяраюць зусім усім з чатырох прадстаўленых СМІ – гэта засталося не зразумелым). Прадстаўленага часу – трошкі больш за гадзіну для адказу на ўсе пытанні – не хапіла ўсім жадаючым выказацца. Арганізатар гульні здзівіўся найбольшаму даверу да радыё «Свабода» (ён паставіўшы ў прынцыпе некарэктнае пытанне, у сваім адказе напрыканцы зазначыў: у яго таксама няма найбольшага даверу). З якіх пазіцый 10 асобаў выбралі варыянт найбольшага даверу да радыё «Свабода» засталося не зразумелым. Патлумачу свой адказ – таму што выбару па-сутнасці не існуе. Журналісты радыё «Свабода» найбольш свабодныя, на маю думку, тым не меней у пэўныя крытычныя моманты ідзе працэс замоўчвання інфармацыі, напрыклад, у свой час ігнаравалася асоба З. Пазняка. Да таго ж інфармацыя падаецца ў пэўнай ідэалагічнай зададзенасці і даволі значная яе колькасць застаецца па-за ўвагай гэтага радыё. Канкурэнтаў у дадзены момант ім няма ў сувязі з цяперашняй сітуацыяй, якая склалася ў нашай краіне.

На пытанне: «Якая з названых крыніцаў найлепш інфармуе пра Беларусь?» большасць асобаў адказалі «Свабода». Гэта зразумела.

На пытанне: «У якім накірунку развіваецца сітуацыя ў краіне паводле ўсіх з названых выданняў, сыходзячы з інфармацыі, пададзенай у кожнай з крыніц?» былі розныя адказы, гледзячы на што была звернута большая ўвага пры праглядзе. У нумары «СБ» за 5 лістапада мяне ў прыватнасці ўразілі «выратаванне дзяцей ад сна ў дзіцячым садку» і шкоднасць электрамагнітных хваляў, якія паўсюль вакол нас. Гэта не сведчыць пра тое, што ў краіне ўсё спакойна (асноўны тэзіс «СБ»), хаця пра гэта піша не толькі «СБ».

Пра Францыю – пасля! Да наступных гульняў!

**P. S.** Па асабістых меркаваннях не называю ўдзельнікаў гульні, хто яны і месца правядзення гульні. Жадаючых выказацца – запрашаю!

Міхась ЛЕБЕДЗЬ

# Кіно пасьля акупацыі



"Бацька"

"Маці"

"Адам і Ева"

КАЛЯЖ АРЦЁМА ЛЯВЫ

**Карціна Андрэя Кудзіненкі «Акупацыя» вяртае беларускае кіно да спрадвечнай і амаль забытай мэты мастацтва — зьдзіўляць, ачышчаць, агаломшваць. Выклікаць катарсыс.**

«Акупацыя» радыкальна розьніцца ад млявых беларускіх гісторый апошніх часоў. Фільм вылучаецца моцнай і сьвежай рэжысурай, пазначанай аўтарскай пазыцыяй. Калі ў карціне «Настасься Слуцкая» Сьвятлана Зелянкоўская ператвораная ў бесканфліктную марыянэтку мыльнаопэрнай гісторыі, дык у фільме Кудзіненкі — выхаванца Віктара Турава — талент гэтай актрысы раскрываецца напоўніцу: гэта сама жарсьць, архетыпічная й пажадлівая Ева, жывы чалавек з крыві й плоці. Калі сцэнар Аляксандра Качана ў карціне «Павадыр» увасабляецца як гісторыя нат не барацьбы, а залагоджваньня лепшага найлепшым — дык ягоны ж сцэнар у «Акупацыі» крываточыць і скаланае гледача.

Фільм складаецца з трох навэл. Першая, «Адам і Ева», была зьнятая два гады таму і называлася «Партызанская містэрыя». Сёлета да яе далучаныя яшчэ дзьве містэрыі — «Маці» і «Бацька». Атрымалася цэласнае поўнамэтражнае кіно.

Калі мы спачатку яшчэ сьмяёмся («Адам і Ева» — гэта містэрыя-іронія), дык потым нам сьціскае горла ад суперажываньня мацярынскай бядзе. А містэрыя-прыпавесьць «Бацька» пакідае нас у трывожным і раздумлівым чаканьні. У кожнай гісторыі ёсьць трагічная памылка, якую выправіць немагчыма. Вясковы хлопец Адам (Аляксандар Маўчанаў), які йшоў у партызаны, застаецца на хутары ў абдымках каханай. Ён трапляе ў пастку жаночых чараў і нат забівае свайго правадніка Штыркіна. Нямая жанчына ратуе параненага нацыста, які замяняе ёй сына, што загінуў. Маленькі хлопчык так імкнецца адшукаць зьніклага бацьку, што прыводзіць у дом людзей, якія забіваюць яго айчыма і маці.

Скразным пэрсанажам усіх містэрый зьяўляецца партызанскі ваяка Штыркін у бліскучым выкананьні Аляксандра Колбышава. У першай частцы яго забіваюць, але ён пасьляхова «ўваскрасае»: гісторыі наўмысна ідуць у адваротным парадку. (Прывітаньне Тарантына й Орсану Уэлсу.)

«Аляксандар Колбышаў сыграў падонка!» — абураўся высокі кіначыноўнік у даносе-рэцэнзіі. Штыркін — не хрэстаматыйны беларусьфільмаўскі партызан; яго найбліжэйшыя «сваякі» — хутчэй, пэрсанажы Плаўтавых камэдый. Гэта балаганны выхваляка, які зграбна-чароўным жэстам расьпіхвае па кішэнях скрадзенае, занюхвае коткай гарэлку — ну папросту недаравальны паклёп на сьветлы вобраз партызана і «старэйшага брата». Але за сьмехам бачацца рэчы сур'ёзныя. Ці ня ёсьць Штыркін Мікітам Зноскам свайго часу, з тымі ж пакутамі рабства й прыстасавальніцтва?

Акторскія працы ў карціне дакладныя, трапныя, выверанЫя і неверагодна жывыя. Маці (Алена Сідарава) цягне параненага, хапае ротам паветра, высільваецца — амаль адчувальная пакута цела на белай прасторы сьнегу — такое было ў дакумэнтальным фільме Віктара Дашука.

«Гэта проста нейкая жывёльнасьць», — абуралася адна глядачка. Як так? Жанчына корміць параненага нямецкага жаўнера ўласным ма-

> На здымачнай пляцоўцы маладога драматурга Андрэя Курэйчыка шматкроць «зьбівалі» й па некалькі дубляў запар кідалі ў сьнег.

лаком. Але гэта глядзіцца як неабмежаванае мацярынскае дараваньне. Гэты эпізод у сцэнары сапраўды меў моцныя біялягічныя й фрайдысцкія элемэнты, але рэжысэр зьняў рызыкоўныя сцэны настолькі тактоўна, наколькі гэта ўвогуле было магчыма.

А апошнія кадры «Маці», калі нямая жанчына, каб вярнуць навазнойдзенага сына, падпальвае ўласную хату і грае на падораным губным гармоніку, шокава й палемічна спасылаюцца на «Знак бяды». Андрэй Кудзіненка хацеў паказаць сваю карціну Быкаву, але мантаж фільму быў завершаны 22 чэрвеня, у дзень сьмерці пісьменьніка.

Ролю зацятага нацыста выканаў Андрэй Курэйчык. На здымачнай пляцоўцы маладога драматурга шматкроць «зьбівалі» й па некалькі дубляў запар кідалі ў сьнег. «Гэта табе ня п'ескі пісаць!» — пасьмейваліся акторы-«паліцаі». Мастакі, якія глядзелі карціну, захапляліся грымам, але гэта была натуральная фізіяномія Курэйчыка, якая папросту апухла падчас здымак.

Андрэй Кавальчук грае ў трэцяй містэрыі вясковага старасту Яна, на якога палююць партызаны. У карціне створаныя вобразы сялянаў, галоўнымі атрыбутамі якіх зьяўляюцца ня лапці, каўтун і забітасьць, але годнасьць, зямля і свабода. Гэта і Адам зь першай містэрыі, і Ян, які зьбіраецца змагацца з камуністамі сам і пасынка свайго падвучвае, дый галоўны станоўчы пэрсанаж карціны — Якуб Лойка.

Якуб Лойка ў выкананьні Анатоля Кота — адзін з самых моцных, прывабных і шматабяцальных вобразаў беларускага кіно. Гэткі селянін-арыстакрат у капелюшы. Пабачыўшы яго, можна сказаць, што ў беларускага кіно не абы-які патэнцыял вэстэрнаў. Але ў гэтым фільме Кот заканамерна акцэнтуе ў сваім герою не тэхаскія, але заходнебеларускія рысы.

Якуб Лойка — патомны партызан. Ягоны прадзед сышоў ваяваць да Каліноўскага. Сцэна, дзе Якуб даходліва тлумачыць Штыркіну, супраць каго змагаўся ягоны прадзед, зрывае аплядысмэнты й сьмех.

Але горла сьціскаецца ў сцэне, дзе партызан Якуб мусіць забіць старасту Яна. «Ну што, братка, мы з табой тутэйшыя, самі разьбяромся. А я балюча не зраблю. Мы ж свае людзі…» Удзельнікі здымачнай групы нават плакалі. Вайна дасягае апатэозу, на экране мы бачым толькі людзкія твары — сьмерць жа ўваходзіць у чалавечае сэрца.

Пасьля гэтага нерухомееш і толькі бачыш, як нясуць соннага хлопчыка-пасынка (Ігар Пстыга). Той сам адчыніў дзьверы мсьціўцам, бо лічыў, што прыйшоў ягоны тата.

Напярэдадні хлопчык маліўся, каб бацька забраў яго з маці і «каб дзядзька Ян не перашкодзіў». Дзіця малілася сумленна й шчыра, сьціскаючы вінтоўку. Які час, такія і цацкі.

У гэтай гульні жыцьцё зьнікае, зьнікае мужчына, юнак, дзіця — і застаецца нямотны жаночы крык, які гучыць здранцьвелай мэлёдыяй на губным гармоніку ды шугае пажарам. І гэта ўжо ня роспач, а прысуд і ачышчэньне.

Застаецца дупло ў вялізным дубе, дзе прачынаецца пакінуты хлопчык. Ён бяжыць па сьнезе й крычыць тонкім сарваным голасам: «Тата! Тата!»

Карціна ўражвае пранізьлівым і суворым гуманізмам. Рэдка кіно размаўляе так, але гэтыя імгненьні найкаштоўнейшыя.

Нельга не адзначыць віртуозную працу гукарэжысэра й кампазытара Андрэя Волкава, які то жартуе акордамі з вэстэрнаў, то агортвае нас трывожнаю, амаль містычнаю атмасфэраю. Апэратар Павал Зуб-

> Беларускія рэплікі дублююцца «карэктнымі» расейскімі тытрамі: «А голас як у дупе волас» — «И голос тоже не очень».

рыцкі стварае ілюзію кінастужкі, хаця фільм зроблены на лічбавым відэа; лёгкая камэра, панарамы і выверанЫя статычныя кадры. Сучасная апэратарская кінамова.

Можна сказаць, што ў фільме ёсьць кадры зацягнутыя; што лепей было ў трэцяй містэрыі не дубляваць Ганну Пінкевіч (яе агучыла выкладчыца беларускай мовы), бо гэта робіць яе рэплікі занадта «правільнымі»; што лішнімі выглядаюць цытаты зь Бібліі — архетыпічныя сытуацыі гавораць за сябе самі, — але ўсё гэта ня можа сапсаваць карціны.

Андрэй Кудзіненка іранічна гуляе з мовамі. Беларускія рэплікі дублююцца «карэктнымі» расейскімі тытрамі: «А голас як у дупе волас» — «И голос тоже не очень». «Я хацеў, каб людзі адчулі сакавітасьць беларускай мовы», — кажа рэжысэр.

Карціна надзвычай кінэматаграфічная, насычаная мітамі й размовамі пра кіно. Мільгаюць фатаздымкі Любові Арловай і Марлен Дзітрых, чуюцца сьпевы зь «Вясёлых хлопцаў» (сьпявае паліцай).

Фільм Андрэя Кудзіненкі — гэта моцнае гульнявое й арыгінальнае эўрапейскае кіно зь беларускім акцэнтам і тварам, з крынічнай хваляю беларускае акавіты. Шчэ на стадыі здымак карціна была запрошаная на прэстыжны Ратэрдамскі фэстываль, што адбудзецца ў студзені. Некалькі маскоўскіх відэакампаній, якія выпадкова пабачылі «Акупацыю», б'юцца за правы на яе продаж.

У Беларусі прэм'ера плянавалася ў кінатэатры «Партызан». Але Саюз кінэматаграфістаў, які перайшоў на партызанскае становішча пасьля таго, як яго будынак заняў дзяржкантроль, збаяўся. Чыноўнікі — нават падчас здымак — намякалі на нейкі «пацыфізм» і «антыдзяржаўнасьць». Што ж, звычайная сытуацыя для Беларусі. Але ня вечная.

«Акупацыя» пачынаецца з правакацыйнага сьцьверджаньня: «Пяцьсот гадоў таму яны ня ведалі, што яны беларусы, але іх дзяржава была найбольшай у Эўропе. Калі яны даведаліся пра гэта, у іх ужо не было дзяржавы. Сто гадоў іх лічылі недаробленымі рускімі. Потым дваццаць гадоў — непаўнавартаснымі палякамі. Яшчэ два гады — савецкімі. А потым пачалася вайна і акупацыя. Пасьля іх беларусаў засталося зусім мала. Цяпер у беларусаў ёсьць дзяржава. Але іх саміх ужо няма».

Фільм даказвае адваротнае самым радыкальным чынам — праз незабыўную мастацкую вобразнасьць, праз сьцьвярджэньне сапраўднага беларускага кіно.

Акупацыі беларускай душы болей не існуе.

Беларускае кіно пачынаецца.

**Андрэй Расінскі**

*Захар ШЫБЕКА*

# IX. ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ ПАЛІТЫЧНАЙ НАЦЫІ*

## 34. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ПАРЛАМЕНЦКАЯ. 1991-1994.

У пасляваенны савецкі перыяд фарміраванне палітычнай нацыі станавілася практычна немагчымым. Нацыя імкліва траціла ўласныя духоўна-ідэалагічныя скрэпы і саветызавалася. Таму разбурэнне СССР была для жыхароў Беларусі вялікім выпрабаваннем. Незалежнікі пьянелі ад водару свабоды. Іншыя выглядалі пагарэльцамі.

### 34.1.Грамадска-палітычнае жыццё на этапе кампрамісаў.

**Наменклатура ва ўладзе.** Пасля абвяшчэння незалежнасці ўлада ў Беларусі заставалася ў руках былой партыйнай наменклатуры, якую прадстаўляў урад Вячаслава Кебіча. Захаванасць у рэспубліцы былых камуністычных, заарыентаваных на Расію, структур тлумачыцца, на думку польскага даследчыка Ежы Дарскага (Таргальскага), слабасцю апазіцыі, высокай ступенню саветызацыі мясцовага грамадства і ключавой роллю Беларусі ў ваеннай сістэме былога СССР. Жнівенскі путч 1991 г. не прывёў да адхілення ад улады старых палітычных сіл, як гэта назіралася ў Расіі. Людзі наменклатуры пасля распаду Савецкага Саюза былі ў разгубленасці. Яны не мелі вопыту самастойнай палітычнай і эканамічнай дзейнасці. Адсутнічала пэўная праграма развіцця краіны ў новых умовах. Нацыянальна-дзяржаўная ідэя лічылася карыснай для ўмацавання ўлады, але культурны патэнцыял Беларусі падаваўся наменклатуры слабым, а нацыянальныя каштоўнасці не дастаткова прываблівымі.

**Пазіцыя БНФ.** Ужо ў сваёй заяве ад 9 лістапада 1991 г. БНФ канстатаваў, што дэкларацыя незалежнасці засталася на паперы. Рэспубліка Беларусь не мае ні ўласнай дзяржаўнай палітыкі, ні ўласнай валюты, ні ўласнага войска, ні кантралюемых межаў. Палітычнае выратаванне для Беларусі Фронт бачыў у поўнай незалежнасці і ў заключэнні двухбаковых пагадненняў з былымі саюзнымі рэспублікамі. Ён ацаніў стварэнне Садружнасці незалежных дзяржаў (8 снежня 1991) як спробу рэанімацыі былога СССР. Асаблівую незадаволенасць выклікала згода беларускага кіраўніцтва ўтрымліваць расійскае войска паводле Белавежскага пагаднення. Апазіцыя патрабавала адстаўкі ўрада Вясаслава Кебіча, прыняцця новага выбарчага закона, які б дазволіў правесці выбары ва ўладныя структуры на шматпартыйнай аснове і ажыццявіць самароспуск Вярхоўнага Савета. А калі кіраўніцтва краіны праігнаравалі гэтыя патрабаванні, БНФ прапанаваў вынесці іх на ўсенародны рэферэндум. Усе апазіцыйныя палітычныя партыі падтрымалі БНФ, акрамя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ). За перавыбранне Вярхоўнага савета выказаўся ў той час і лідэр мінскіх прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык. У першыя гады незалежнасці існавала ўпэненасць у беззваротнасці дэмакратычнага развіцця.

**Першая спроба згоды.** Кіраўніцтва Грамады абрала тактыку згоды з пракамуністычнымі ўрадавымі коламі. У студзені 1992 г. утварыўся грамадска-палітычны блок "Новая Беларусь". Грамада хацела дамовіцца з былой партыйнай наменклатурай за "круглым сталом" аб выпрацоўцы антыкрызіснай праграмы на аснове прызнання суверэннасці рэспублікі. Падставы для кампрамісу паміж нацыянальным рухам і' наменклатурай захоўваліся. У першыя гады незалежнасці склалася кволая раўнавага палітычных сіл. Пра гэта сведчыў хоць бы той факт, што ў студзені 1992 г. дзяржаўная камісія прызнала пахаваных у Курапатах ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Лідэры ж БНФ палічылі тактыку згоды спробай ўратавання камуністаў ад канчатковага банкруцтва. Апазіцыя падзялілася і вылучыла два палітычных цэнтры -- нацыянал-радыкальны (БНФ) і нацыянал-ліберальны (Грамада). Блок "Новая Беларусь" павінен быў стаць стрыжнем адзінага нацыянальнага фронту на чале з Станіславам Шушкевічам -- новым старшынёй Вярхоўнага савета. Аднак нацыянал-радыкалы не пайшлі на аб'яднанне з наменклатурай, а нацыянал-лібералы хутка расчараваліся ў нацыянальным патрыятызме і адданасці рэформам кіруючай вярхушкі. Блок практычна распаўся. Грамада далучылася да БНФ у справе збору подпісаў на карысць рэферэндуму.

**Кароткачасовы кампраміс.** Вясной 1992 г. зноў рабілася спроба рэалізацыі ідэяў "Новай Беларусі". 14 сакавіка Зянон Пазняк згадзіўся ўвайсці ў Антыкрызісны камітэт разам з Вячаславам Кебічам і Станіславам Шушкевічам з надзеяй атрымаць ад урадавых колаў падтрымку ў абароне суверэннасці Беларусі ад пагрозы з боку Расіі. Тады разуменне неабходнасці стварэння афіцыйнай нацыянальнай ідэалогіі аб'яднала амаль усе палітычныя сілы рэспублікі. У склад Антыкрызіснага камітэта ўваходзіла 49 прадстаўнікоў усіх афіцыйна зарэгістраваных партый і рухаў, а таксама прафсаюзаў і саюзаў прадпрымальнікаў. Уступленне наменклатуры ў дыялог з нацыянальнымі сіламі можна патлумачыць і жаданнем адмежавацца ад расійскай шокавай тэрапіі. Аднак і на гэты раз прымірэнне прарасійскай і пракамуністычнай наменклатуры з прыхільнікамі незалежнасці і рэформаў аказалася часовым. Прарасійскія сілы не выяўлялі зацікаўленасці ў кансалідацыі грамадства вакол маладой беларускай дзяржавы.

**Праблемы нацыяналізацыі войска.** У мілітарызаванай Беларусі грамадская кансалідацыя ў значнай ступені залежыла ад вырашэння вайсковых праблем. У студзені 1992 г. утворана Міністэрства нацыянальнай абароны, а ў лютым-сакавіку Вярхоўны савет прыступіў да арганізацыі Беларускіх узброеных сіл. Нязначнай большасцю галасоў ён падпарадкаваў дыслацыраванае ў Беларусі войска беларускаму ўраду і прыняў тэкст прысягі на вернасць беларускаму народу. На службе заставаліся былыя савецкія афіцэры, якія прысягалі Савецкаму Саюзу. Беларусы сярод іх складалі ўсяго 20%. Але каля 13 тысяч афіцэраў-беларусаў па-за межамі рэспублікі выказвалі жаданне служыць у нацыянальным войску. Да вясны 1993 г. вярнуцца ўдалося толькі каля 5 тысячам. Вайсковае кіраўніцтва, звязанае з расійскім міністэрствам абароны і расійскім Саюзам афіцэраў, фактычна не спрыяла гэтаму. Расійскія афіцэры, якія адмаўляліся прымаць новую прысягу, не звальняліся. Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, створанае ў жніўні 1991 г., непазбежна канфліктавала з прарасійскімі генераламі. Аб спробах нацыялізацыі КДБ звесткі пакуль адсутнічаюць.

**Праблемы дэмілітарызацыі.** 23 мая 1992 г. Беларусь, Казахстан і Украіна заключылі ў Лісабоне з ЗША пагадненне, паводле якога бралі на сябе абавязак знішчыць альбо перадаць Расіі ўсе стратэгічныя ядзерныя баегалоўкі і тым далучыцца да дагавору 1968 г. аб непашырэнні ядзернай зброі. Прынятая ў канцы 1992 г. Вярхоўным саветам праграма рэарганізацыі ўзброеных сіл прадугледжвала скарачэнне беларускага войска з 130 да 60 тыс. чалавек, адказ ад валодання ядзернай зброяй і наданне Беларусі статута нейтральнай дзяржавы. 4 лютага 1993 г. Вярхоўны савет Беларусі ратыфікаваў дагавор аб скарачэнні стратэгічных узбраенняў і тым зафіксаваў далучэнне краіны да дагавору аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі. Беларуская Рэспубліка стала першай краінай свету, якая добраахвотна адмаўлялася ад разбуральнай зброі. Гэтая акцыя была высока ацэнена міжнароднай грамадскасцю і вельмі ўзняла аўтарытэт Беларусі. Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан запэўніў тады Станіслава Шушкевіча, што яго краіна дасць Беларусі гарантыі бяспекі. Праўда, акцыя вывазу ядзернай зброі ў Расію ледзь не абярнулася другім Чарнобылем. Журналісту "Народнай волі" Яўгену Сулыгу ўдалося ўстанавіць, што ў ліпені 1992 г. на ст.Мачулішчы, што каля Мінска, побач з эшалонам з ядзернай зброяй ледзь не адбыўся пажар. У выніку безадказнасці і неахайнасці, авіяцыйная газа вылілася тады з чыгуначнай цыстэрны на чыгуначнае палатно. І толькі прафесійная дзейнасць пажарнай каманды з базы захавання ядзерных боепрыпасаў уратавала становішча.

**Нарастанне расколу грамадскіх сіл.** Новая ваенная дактрына Беларусі не спыніла яе ваеннага збліжэннея з ядзернай Расіяй. У адпаведнасці з дамоўленнасцю з Масквой (ліпень 1992), на тэрыторыі Беларусі заставалася 35-тысячнае расійскае войска і стратэгічная ядзерная зброя. Станіслаў Шушкевіч не ўхваляў ваеннага супрацоўніцтва з Расіяй, якое працягваў праводзіць Вячаслаў Кебіч, бо лічыў, што такое супрацоўніцтва парушае суверэнітэт Беларусі і яе нейтральны статус. Вайсковыя справы сталі першым сур'ёзным сігналам глыбокіх разыходжанняў у поглядах кіраўнікоў парламента і ўрада на перспектывы развіцця краіны. Скіпер беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч праводзіў палітыку дасягнення кампрамісу паміж БНФ і камуністамі. Выступаючы за супрацоўніцтва з Расіяй толькі на канфедэратыўнай аснове, ён губляў падтрымку і з боку незалежнікаў, і з боку прыхільнікаў аднаўлення былога СССР. У красавіку 1992 г. прадстаўнік наменклатуры В.Кузняцоў абіраецца намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета, што значна паслабляе пазіцыю Станіслава Шушкевіча.

### 34.2.Грамадска-палітычнае жыццё на этапе канфрантацыі.

**Пачатак бескампраміснай барацьбы.** 29 кастрычніка 1992 г. Вярхоўны савет забараніў правядзенне рэферэндуму аб даверы да сябе народа, хоць апазіцыя на чале з БНФ і сабрала неабходную колькасць подпісаў (442 тыс.) для канстытуцыйнага права на такі рэферэндум. Камуністы не беспадстаўна баяліся, што людзі прагаласуюць за роспуск Вярхоўнага савета, а новыя выбары прывядуць дэмакратычныя сілы да рэальнай улады. Не падтрымліваў ідэю рэферэндума і Станіслаў Шушкевіч, які не губляў надзеі паразумецца з камуністамі. Беларускі парламент зрабіў апазіцыі невялікую ўступку: скараціў тэрмін сваіх паўнамоцтваў з пяці да чатырох год і назначыў на сакавік 1994 г. новыя выбары. Аднак далейшы кампраміс паміж прадстаўнікамі нацыянальнага руху і наменклатурай захаваць не ўдалося. Ад кастрычніка 1992 г. краіна знаходзілася ў стадыі перманентнай барацьбы старых і новых сіл за ўладу. Відаць, гэта і падштурхнула Вярхоўны савет адмовіцца пазней ад абяцаных датэрміновых перавыбараў свайго складу.

**Кансалідацыя сіл рэстаўрацыі.** Паводле дадзеных апытання грамадскай думкі, ужо ў 1992 г., меней чым праз год пасля распаду Савецкага Саюза, каля 48% грамадзян Беларусі выказалася за аднаўленне СССР. Восенню 1992 г. утварыўся посткамуністычны палітычны блок -- Народны рух Беларусі. У яго ўвайшло 15 партый і арганізацый: Славянскі сабор "Белая Русь", Партыя камуністаў Беларусі (зарэгістравана 9.06.1992), афіцыйны Саюз афіцэраў Беларусі (заснаваны ў красавіку 1992 г.), арганізацыя ветэранаў і вайсковых матак, парламенцкая фракцыя "Саюз", грамадска-культурнае таварыста "Палессе" і іншыя палітычныя сілы, якія прагнулі пазбавіць Беларусь нацыяналізму (БНФ), надаць рускай мове побач з беларускай статут дзяржаўнай і адміністрацыйнымі метадамі вывесці краіну з крызісу. На чале каардынацыйнага камітэту стаў былы расійскі афіцэр Сяргей Гайдукевіч. Падтрымлівала Народны рух Беларусі і ўзнікшая ў чэрвені 1992 г. Аб'яднаная аграрна-дэмакратычная партыя Беларусі. Сябрамі гэтай партыі былі кіраўнікі саўгасаў і калгасаў, якія цвёрда стаяла за захаванне ў краіне калгаснага ладу. 3-га лютага 1993 г. камуністычная большасць парламента дазволіла узнавіць дзейнасць КПБ, праўда, партыйная маёмасць пакідалася ў руках дзяржавы. Што тычыцца камсамола Беларусі, то ён стараннямі камуністаў пры ўладзе захаваў сваю ўласнасць і дзяржаўныя датацыі, змяніўшы толькі назву на Саюз ⇒

* Старонкі ненадрукаванай пакуль у Беларусі кнігі „Гісторыя Беларусі ад 1795 г.“, якая пабачыць свет на роднай мове прыкладна ў снежні 2003 г.

# Давайма супрацоўнічаць!

Кожны цывілізаваны народ ганарыцца сваёй гісторыяй, без далучэння да якой няма дарогі ў будучыню. Мы мала ведаем пра свае вытокі і карані, сваіх слаўных продкаў, іх подзвігі і пошукі шчасця для Бацькаўшчыны. Гістарычная праўда была закрыта, замоўчвалася, перакручвалася.

Веданне мінуўшчыны, адчуванне непарыўнай повязі часоў і падзей, памкненняў людскіх дае чалавеку трывалы грунт яго існавання на зямлі, дазваляе глядзець у будучыню.

Гісторыя – наш духоўны скарб, які мы павінны сабраць, зберагчы і перадаць нашчадкам.

Перадавайце свае матэрыялы ў гістарычны аддзел выдання "Скарб Думак"!

Міхась ЛЕБЕДЗЬ

*Захар ШЫБЕКА*

**IX. ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ ПАЛІТЫЧНАЙ НАЦЫІ**

34. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ПАРЛАМЕНЦКАЯ. 1991-1994.



моладзі Беларусі. Узноўленая КПБ неўзабаве аб'ядналася з Партыяй камуністаў Беларусі. І гэта быў сігнал да атакі для прыхільнікаў далучэння да Расіі.

**Ідэалагічныя барыкады.** У сваёй новай праграме, прынятай у маі 1993 г., БНФ вызначыў наменклатуру ў якасці свайго галоўнага ворага. Сілы Народнага руху Беларусі, падтрыманыя ўрадам Вячаслава Кебіча, разгарнулі супраць БНФ шалёную кампанію па яго дыскрыдытацыі. Абвяшчэнне Фронтам 8 верасня Днём беларускай вайсковай славы ў сувязі з перамогай пад Воршай у 1514 г. войска Вялікага Княства Літоўскага над войскам Маскоўскага Княства было ацэнена як доказ антыславянскага шавінізму БНФ. Правядзенне шэсцяў на 8 верасня забаранялася. Калі ж блізкія да Фронта гісторыкі пачыналі падкрэсліваць антысавецкую накіраванасць дзейнасці беларускіх нацыяналістаў у 1941-1944 гг., то гэта стала дадатковай падставай, каб зноў выставіць БНФ у якасці фашысцкай арганізацыі. Усе спробы кіраўніцтва Фронта ператварыць 25 сакавіка – дзень, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) -- ва ўсеагульнае беларускае свята не знаходзіла афіцыйнай падтрымкі. У сакавіку 1994 г. утварылася Дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў Беларусі. Былыя партызаны, чырвонаармейцы, камуністы прымалі ідэю беларускай дзяржаўнасці, ідэалы БНФ. 3-га ліпеня, у дзень святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нацыскіх захопнікаў, прадстаўнікоў гэтай арганізацыі не дапусцілі ўскласці кветкі да помніка Перамогі. Гістарычная спадчына разводзіла беларускае грамадства па два бакі ідэалагічных барыкад. Адны прытрымліваліся ідэалаў БНР, другія – ідэалаў БССР.

**Паварот да збліжэння з Расіяй.** Ад сакавіка 1993 г. урад Вячаслава Кебіча пачаў дамагацца дзвюхбаковага ваенна-эканамічнага саюза з Расійскай Федэрацыяй. Ідэя СНД беларускую наменклатуру не задавальняла, бо яна заставалася на паперы, нягледзячы на шэраг пагадненняў. На сакавіцкай сесіі Вярхоўнага савета Станіслаў Шушкевіч зноў выказваўся за канфедэратыўнасць СНД і нейтралітэт Беларусі, але яго аргументы выклікалі ў большасці дэпутатаў толькі раздражненне. І ўсё ж на той сесіі Станіславу Шушкевічу, як палітычнаму дзеячу, звязанаму з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, удалося ўтаймаваць прыхільнікаў расійскай арыентацыі. Апошнюю спробу знайсці хоць нейкае паразуменне з наменклатурай нацыянал-лібералы пры падтрымцы Станіслава Шушкевіча зрабілі ў кастрычніку 1993 г., калі Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Аб'яднаная дэмакратычная і Сялянская партыі разам з некаторымі грамадскімі арганізацыямі ўтварылі Аб'яднанне дэмакратычных сіл "Вясна-94". У кааліцыі, якая наўмысна прыглушала нацыянальныя праблемы дзеля дасягнення кампрамісу ў грамадстве, месца для БНФ не знаходзілася. Але і чарговая ўступка неакамуністам, каб дамовіцца аб сфарміраванні кааліцыйнага ўраду даверу, зноў не ўдалася. У снежні 1993 г. Беларусь апошняй з краін СНД, але ўсё ж далучылася да калектыўнай бяспекі СНД. А гэта давала мажлівасць расійскім генералам набіраць са згоды Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь беларускіх вайскоўцаў тэрміновай службы на "працу" ў ахопленыя грамадзянскімі войнамі Арменію, Грузію і Таджыкістан.

**Адхіленне ад улады Шушкевіча.** У студзені 1994 г. у Мінску літоўскія спецслужбы арыштавалі і даставілі ў Літву функцыянераў літоўскай кампартыі Ніколаса Буракявічуса і Юозаса Ермалавічуса, якія абвінавачваліся ўладамі суседняй краіны ў антыдзяржаўнай дзейнасці (арганізацыі крывавага падаўлення літоўцаў, якія 13 студзеня 1991 г. абаранялі тэлевізійную вышку, права на дзяржаўную незалежнасць). Інцэндэнт абмяркоўваўся на пасяджэнні Вярхоўнага савета. Кіраўнік КДБ і міністр ўнутраных спраў былі адпраўлены ў адстаўку. Звоюленыя кіраўнікі падтрымлівалі Станіслава Шушкевіча. На спікер таксама кідалася цень. Старшыня Вярхоўнага савета абвінавачваўся, акрамя таго, у прысваенні дзяржаўных сродкаў вартасцю 100 доларау на будаўніцтва дачы. Галоўным абвінавальнікам выступіў старшыня парламенцкай камісіі па выкрыццю злачынстваў Аляксандр Лукашэнка, што паслужыла росту яго папулярнасці. І сапраўды, злоўжыванні мелі месца. Старая эліта ва ўмовах гіперінфляцыі казачна нажывалася коштам танных дзяржаўных крэдытаў. Станіслаў Шушкевіч не меў з ёй нічога агульнага, але на гэты раз утрымацца на пасадзе яму не ўдалося. 26 студзеня Вярхоўны савет значнай большасцю галасоў зволіў свайго скіпера. Наменклатура расчышчала дарогу для саюза з Расіяй і канцэнтрацыі ўлады ў руках Вячаслава.Кебіча. Узнікала пагроза стварэння на Беларусі аўтарытарнага рэжыму. Новым старшынёй Вярхоўнага савета Беларусі быў абраны генерал міліцыі Мечаслаў Грыб.

**Палярызацыя палітычных сіл.** Курс на збліжэнне з Расіяй падзяліў палітычныя сілы рэспублікі на праціўнікаў і прыхільнікаў беларускай незалежнасці. Акрамя фракцыі "Саюз" у Вярхоўным савеце і Народнага руху Беларусі, супраць незалежнасці выказалася ў 1993 г. і прамысловая наменклатура, звязаная пераважна з усходне-беларускім прамысловым сектарам, залежным ад расійскага рынку. Дзеля эканамічных выгад гэтыя сілы цягнулі Беларусь да "уз'яднання" з Расіяй. Заснаваную вясной 1993 г. прамысловую партыю (Беларускі навукова-вытворчы кангрэс) актыўна падтрымліваў урад Вячаслава Кебіча. Ідэалам урадавых колаў заставалася былая БССР, у лепшым выпадку нэпманаўскага ўзору 20-х гадоў. Узгадаваная пад апекай "старэйшага брата", палітычная эліта і не магла не імкнуцца да Расіі ў надзеі на дапамогу. Прыкладаў падтрымкі (і найперш матэрыяльнай) ад іншых дзяржаў яна не ведала. Захад не ўнушаў даверу. Свае справы ён па традыцыі вырашаў з Масквой праз галовы беларусаў. Пагроза страты незалежнасці падштурхоўвала нацыянал-радыкалаў і нацыянал-лібералаў да кансалідацыі. У барацьбе за незалежнае развіццё Беларусі яны пачыналі выступаць адзіным фронтам. Ідэяй канфедэратыўнага саюза Беларусі і Расіі, за якую выступаў Станіслаў Шушкевіч, ніхто з проціборстваваючых бакоў не захацеў скарыстацца. Асабліва рашуча за адмежаванне ад Расіі і за празаходнюю арыентацыю краіны выступала кіраўніцтва БНФ. З усіх неакамуністычных арганізацый толькі ўтвораная ў сакавіку 1992 г. Партыя нацыянальнай згоды на чале з Генадзем Карпенкам прымала ідэю беларусізацыі жыцця ў рэспубліцы і была адкрыта для дыялогу з незалежнікамі. Побач з прарасійскімі імкненнямі распальваліся спрэчкі вакол аўтаноміі для заходніх палешукоў з цэнтрам у Пінску (грамадска-культурнае таварыства "Палессе").

**Выступленні ў падтрымку незалежнасці.** Візіт прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў Мінск (студзень 1994) нібы нагадаў, што Беларусь -- незалежная дзяржава. Шмат каго прымусіла задумацца і публікацыя Зянона Пазняка "О русском империализме и его опасности" ("Народная газета", 15-17 студзеня). 15 лютага 1994 г. з антыўрадавымі і незалежніцкімі лозунгамі выйшлі на вуліцу жыхары Мінска. Супраць удзельнікаў палітычнага страйку абрушыліся рэпрэсіі, было забаронена Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, якое сваёй адданасцю ідэі незалежнасці выклікала ўсеагульную павагу з боку свядомых грамадзян Беларусі. У "Звароце да беларускага народа" дэлегаты XI з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі асудзілі намеры "пэўных палітычных сіл" уключыць Рэспубліку Беларусь ў склад Расійскай Федэрацыі. Аднак нацыянальныя ідэалы не вялі да яднання саветызаванага грамадства. Людзі і асабліва вяскоўцы заставаліся ў эканамічнай залежнасці ад мясцовых скамунізаваных улад. У такіх умовах БНФ не мог ператварыцца ў масавую арганізацыю, тым не менш, дзейнасць Фронта на чале з Зянонам Пазняком прыносіла вынікі. Адданасць беларускай ідэі давала імпульс нацыянальнаму абуджэнню. Людзі пачалі ганарыцца сваёй прыналежнасцю да беларускай нацыі.

**Спрэчкі пра ўвядзенне прэзідэнцкага кіравання.** Савецкія рэваншысты рабілі стаўку на ўвядзенне пасады прэзідэнта і на захоп гэтай пасады ў свае рукі. Дэмакратычная апазіцыя патрабавала парламентскага кіравання. На Кансультатыўнай нарадзе дэмакратычна-патрыятычных сіл 21 лютага 1994 г. было вырашына перашкодзіць наменклатуры ўключыць у канстытуцыю артыкул аб прэзідэнтстве, а калі не ўдасца, то вылучыць адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад усяго дэмакратычна-патрыятычнага лагера. У склад гэтага лагера ўваходзілі Аб'яднаная дэмакратычная партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Беларуская сялянская партыя, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, Таварыства беларускай мовы. Прадстаўнікі БНФ на нарадзе не прысутнічалі. У маі-чэрвені 1993 г. БНФ выдзеліў з сябе палітычную партыю пад такой жа назвай -- БНФ-- на чале з Зянонам Пазняком і меў намер весці передвыбарную барацьбу самастойна. 1 сакавіка 1994 г. Вярхоўны савет прагаласаваў за ўвядзенне ў Беларусі прэзідэнцкай улады.

**Падрыхтоўка да выбараў прэзідэнта.** Задоўга да афіцыйнага пачатку прэзідэнцкай кампаніі ў яе ўключыліся прэм'ер Вячаслаў Кебіч і нечакана для наменклатуры -- старшыня "антымафіёзнай" камісіі Аляксандр Лукашэнка. Першы амаль да абсурду даводзіў свае абяцанні аб выхадзе з крызісу з дапамогай Расіі, другі -- браўся выкрыць злачынствы не меней 20 высокапастаўленых асоб. Аднак абодвы імкнуліся пераўзыйсці адзін аднаго ў выяўленні сяброўскіх пачуццяў да Расіі. 30 сакавіка ўступіла ў сілу новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, згодна з якой рэспубліка абвяшчалася дэмакратычнай, прававой і суверэннай дзяржавай, але прэзідэнт надзяляўся паўнамоцтвамі поўнага кантролю за выканаўчай уладай. Прэзідэнтцкая перадвыбарная кампанія, што пачалася з 15 красавіка, праводзілася ў адпаведнасці з новым асноўным законам рэспублікі. Першым парушальнікам новай канстытуцыі стаў Вячаслаў Кебіч, які дамагаўся аб'яднання грошавых сістэм Беларусі і Расіі. У прэзідэнцкую кампанію акрамя Вячаслава Кебіча ўключыліся Станіслаў Шушкевіч, Зянон Пазняк, Васіль Новікаў (ад камуністаў), Аляксандр Лукашэнка, Генадзь Карпенка і Аляксандр Дубко. Да 15 мая ім неабходна было сабраць не меней 100 тыс. подпісаў. Першае выпрабаванне не прайшоў толькі Генадзь Карпенка. Подпісаў у Зянона Пазняка аказалася болей, чым у Станіслава Шушкевіча. Таму БНФ прапаноўваў зняць кандыдатуру Станіслава Шушкевіча, які набраў сама меней подпісаў, і прагаласаваць за Зянона Пазняка. Група падтрымкі Станіслава Шушкевіча (лібералы, сацыял-дэмакраты, свабодныя прафсаюзы) мела іншае меркаванне -- нацыянал-радыкалізм лідэра БНФ адштурхне выбаршчыкаў. Узаемапаразумення не адбылося. А афіцыйныя сродкі інфармацыі тым часам ва ўсіх эканамічных цяжкасцях абвінавачвалі дэмакратаў, хоць яны і не мелі да ўлады ніякага дачынення.

**Удзел Расіі.** Усходняя суседка працягвала аказваць на палітычныя падзеі ў Беларусі істотны ўплыў і пасля распаду СССР. Шмат рабілася, каб не дапусціць кансалідацыі беларускага грамадства вакол нацыянальнай ідэі. Зацікаўленасць Беларусяй узрасла пасля палітычнага крызісу восені 1993 г., калі расійскі парламент быў гвалтоўна разагнаны прэзідэнтам і намецілася тэндэнцыя да рэстаўрацыі таталітарызму. Новая мадэль захавання расійскай імперыі прадугледжвала рэанімацыю ідэі славянскага адзінства рускіх, беларусаў, украінцаў. Украіна аказалася незгаворлівай. Заставалася Беларусь з яе "калідорам" на Захад. Урад Вячаслава Кебіча і Вярхоўны савет выяўлялі падатлівасць, і не толькі з-за вялікай зрусіфікаванасці беларусаў. Пасля распаду Саюза беларускі КДБ, створаны ў савецкі час пад наглядам Масквы, працягваў спраўна дзейнічаць, а рэспубліка на 80-90% залежыла ад энергапаставак з Расіі. Гэтым і скарысталася Масква для ажыццяўлення сваіх імперскіх планаў.

/Працяг будзе/

## Удакладненні. *У сувязі з памылкай на першай старонцы.*

**Адзін з чытачоў выдання "Скарб Думак", беларускі археолаг, спадар Эдвард Зайкоўскі паведаміў па тэлефоне пра заўважаныя ім памылкі ў артыкуле гісторыка Ігара Кузняцова "Носьбіты ідэі беларускай дзяржаўнасці – ахвяры таталітарнага рэжыма", змешчанага ў першым нумары бібліятэчкі на старонках 6-7 (агульныя 8-9 старонкі выдання).**

**У размове ён распавёў пра недакладнасці далейшага лёса некаторых беларусаў, арыштаваных у 1930 і 1931 г. за нацыяналізм. У прыватнасці, Максім Гарэцкі, праф., арыштаваны ў 1930 г., высланы ў Сібір, загінуў не там, а ў *Вязьме*;Гаўрыла Гарэцкі, акадэмік, арыштаваны ў 1931 г., другі раз ў 1936 г., не загінуў, а памёр у 1988 г.; Мітрафан Доўнар-Запольскі, праф., арыштаваны ў 1930 г., не загінуў у Сібіры, а памёр у Маскве. "Не патрэбна прыпісваць, не маючы для гэтага падставаў, бальшавіцкаму рэжыму новыя ахвяры, ім сваіх хопіць," – слушна заўважыў спадар Эдвард.**

***Шчыры дзякуй*** шаноўнаму чытачу за ўдакладненні!

***Прашу прабачэння*** за змешчаныя ў выданні недакладнасці!

Аўтарам чарговых публікацый, нагадваю: ***больш дэталёва праглядайце свае тэксты і не давайце неправераных звестак!***

Міхась ЛЕБЕДЗЬ

## Віншаванні.

***Максіма Валадзько з 11-годдзем віншуе сям'я Лебедзяў:***

***Расці на радасць сваім маці і тату! Не будзь упарты! Але расці ўпарта! Здзяйснення тваіх мараў і ўсяго табе найлепшага!***

**Са Святам на тыдні усіх, хто ў гэтыя дні нарадзіўся, пабраўся шлюбам і г. д. Рэдакцыя "Скарба Думак".**


***Скарб Думак. № 3.***

***Незалежнае рознабаковае выданне.***

**10 лістапада 2003 года.**

*Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*

*Распаўсюджваецца **бясплатна.***

Галоўны рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ.

Тэлефон у Менску: **233 61 89**.

**E-mail: lebiedz@tut.by.**

Выходзіць у панядзелкі.

**Наклад 299 асобнікаў.**


***Шаноўныя чытачы!***

Цяпер Вы трымаеце ў руках трэці нумар штотыднёвіка. Паглядзіце, пачытайце, калі ён вам не спадабаецца, **не выкідайце – перадайце** каму-небудзь са сваіх сяброў і знаёмых, калі да спадобы – чытайце з імі! Будзьма разам! Крытыкуйце нас, дасылайце нам свае матэрыялы! Давайма займацца даследаваннем нашага жыцця, каб як мага меней рабіць у ім памылак, а ўжо зробленыя найхутчэй выпраўляць. Рабіма нашую сучаснасць больш зразумелай і прывабнай!